**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 37 (805) 10 верасня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Адзін з самых вялікіх камянёў Беларусі ляжыць на Глыбоччыне ля возера Белае.** Працяг тэмы на стар. 4. *Фота Ул. Скрабатуна.*









## У Беларусі адкрытае паляванне на вадаплаўную і балотную дзічыну

**З 5 верасня адкрыта паляванне на вадаплаўную і балотную дзічыну, слонку, вяхіра, голуба шэрага, перапёлку, фазана, паведамілі ў прэс-службе Міністэрства лясной гаспадаркі.**

Мінлясгас настойліва рэкамендуе ўсім карыстальнікам паляўнічых угоддзяў абмяжаваць правядзенне палявання на гэтыя віды толькі вадаёмамі і вадацёкамі, выключыўшы тарфянікі.

Нагадаем, што адкрыццё сезона палявання на дзічыну двойчы пераносілася з-за пажаранебяспечнай сітуацыі ў лясах: было прызначанае на 8 жніўня, потым перанесенае на 22 жніўня і 5 верасня.

*Марына Носава, БелаПАН.*





## По росце спажывецкіх цэн у ліпені Беларусь заняла другое месца на тэрыторыі былога СССР, з пачатку года — трэцяе

Рост спажывецкіх цэн у Беларусі паводле вынікаў студзеня-ліпеня 2015 года склаў 7,5%. На тэрыторыі былога СССР гэта трэці паказчык, сведчыць праведзены БелаПАН аналіз звестак нацыянальных органаў статыстыкі. Паводле вынікаў студзеня (2,4%), студзеня-лютага (4,1%) і першага квартала (4,9%) Беларусь была чацвёртай, студзеня-красавіка (5,9%), студзеня-мая (6,5%) і паўгоддзя (7,3%) – трэцяй.

Наперадзе Украіна (39,3%) і Расія (9,4%). За Беларуссю размясціліся Малдова (5,2%), Таджыкістан (2,7%), Азербайджан (2,5%), Грузія (2,2%), Казахстан (1,5%), Латвія (1,1%) і Эстонія (0,9%). У Кыргызстане цэны знізіліся на 0,2%, у Літве — на 0,3%, у Арменіі – на 2,2%. У Туркменістане за першае паўгоддзе цэны павялічыліся на 4,7%. Няма звестак з Узбекістана.

У самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы, якая мае ўласную фінансавую сістэму, цэны зменшыліся за сем месяцаў на 1,3%.

У ліпені з ростам цэн на 0,2% Беларусь заняла другое месца пасля Расіі (0,8%). Трэцюю пазіцыю раздзялілі Казахстан і Таджыкістан (па 0,1%). Дэфляцыя назіралася ў Грузіі (0,2%), Эстоніі (0,4%), Кыргызстане, Літве, Малдове (па 0,5%), Азербайджане (0,7%), Латвіі, Украіне (па 1%) і Арменіі (2,2%).

Паводле вынікаў года беларускія фінансавыя ўлады прагназуюць інфляцыю на ўзроўні 16-20%. У 2014 годзе цэны павысіліся на 16,2%.

*Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.*









ISSN 2077-8023







## Лучай ізноў запрашае на свята!

13 верасня, а 12-й гадзіне – святая Імша.
Далей – канцэрт з удзелам барда Змітра Вайцюшкевіча, баяніста Анатоля Тарана, гурта "Скіфы".

### Шумілінскі раён

# Актыўны адпачынак патрэбны

■ Станіслаў Раманчук.

**У наш дынамічны час, каб спраўляцца з ўсё ўзрастаючымі нагрузкамі, кожнаму патрэбна быць у добрай фізічнай форме, шмат рухацца, займацца фізікультурай і спортам.** Гэта добра разумее новы глава вобласці, у мінулым майстар спорту Мікалай Шарстнёў, які ініцыяваў правядзенне першай круглагадовай спартакіяды сярод работнікаў органаў дзяржаўнага ўпраўлення Віцебшчыны. Адразу пасля завяршэння жніва гэтыя спаборніцтвы прайшлі ў Шумілінскім раёне ў маляўнічых ваколіцах возера Будавесць і сабралі 27 каманд дзяржслужачых рай і гарвыканкамаў і самога аблвыканкама.Кіраўнікірозных рангаў на чале з главамі мясцовых адміністрацый на працягу двух дзён спаборнічалі ў пляжным валейболе і футболе, стральбе, настольным тэнісе, усяго па 8 відах спорту. Кіраўнік вобласці зноў прадэманстраваў, што знаходзіцца ў бліскучай форме, padняў двухпудовую гіру 75 разоў і ўпэўнена заваяваў першае месца. Зусім нямнога адстаў ад старшыні аблвыканкама асілак Аляксандр Ярашоў з Бешанковіцкага раёна, які быў лепшым у армрэстлінгу. У шэрагу відаў за зборную аблвыканкама паспяхова выступаў начальнік упраўлення спорту і турызму, кандыдат у майстры спорту Васіль Захарэвіч, што дапамагло яго калегам атрымаць агульнакамандную перамогу. У самым апошнім відзе турніру, перацягванні каната поспех прыйшоў да камандзы Кастрычніцкага раёна Віцебска, што і вывела яе на 3-е месца ўслед за сярэбранымі медалістамі, зборнай адміністрацыі Наваполацка. Спаборніцтвы ўпраўленцаў усім спадабаліся, яны стануць традыцыйнымі і зноў прадоўжацца будучай зімой.

### Пастаўскі раён

# Поле не падманеш

■ Чэслаў Якубовіч.

**У гэтым годзе былі некаторыя апасенні за лёс вырашчанага ўраджаю збожжа, але шмат дзе атрымалі вельмі высокія намалоты.**

У ліку лепшых на Віцебшчыне апынуўся Пастаўскі раён, дзе ўпершыню ў гісторыі ўраджайнасць склала 41 цэнтнер з гектара, а ўсяго намалацілі тут амаль 85 тысяч тон зерня. На мясцовых палетках зноў не было роўных прыгараднай гаспадарцы "Хацілы-агра", дзе на круг урадзіла па 80,5 цэнтнера – найлепшы паказчык у Прыдзвінні. Тут завяршылі жніво на 1600 гектарах роўна за тры тыдні. Маглі б пры жаданні і хутчэй, але не спяшаліся, клапаціліся як мага болей сабраць элітнага насення, вырошчваннем якога займаюцца. Стаўка на якасць і строгае захаванне тэхналогіі, якасны догляд пасеваў сябе апраўдалі, таксама і надвор'е не падвяло, а працаўнікі заўжды тут былі працавітыя і ўмелыя. Упершыню ў гісторыі нават дзевяць экіпажаў камбайнераў з 10 намалацілі больш па тысячы тон збожжа, а двое з іх наблізіліся да двухтысячных намалотаў. Збожжа штодзень было столькі, што для яго перавозкі задзейнічалі таксама сучасныя трактары МТЗ з вялікагрузнымі прычэпамі. У выніку на гэтых работах у гаспадарцы аказалася шэсць тысячнікаў, а трое вадзіцеляў перавезлі на мехдвор па звыш 2 тысячы тон кожны. Атрымалі высокі ўраджай яшчэ і таму, што ўсе палеткі атрымалі патрэбную колькасць калійных, фосфарных і азотных угнаенняў, чым многія іншыя гаспадаркі не могуць пахваліцца. Усе палі двойчы падкармілі і без праблем выканалі дзяржзаказ, забяспечылі сябе якасным насеннем, на які ёсць попыт. Дарэчы, яшчэ ў чатырох мясцовых гаспадарках сёлета выйшлі на намалоты вышэй рэспубліканскіх, а ўсяго ўпершыню на жніве аказалася ў раёне 69 экіпажаў камбайнаў і вадзіцелей-тысячнікаў.

### Полацкі раён

# Крадуць старыя і маладыя

■ Кастусь Александровіч

**Адзін з галоўных хрысціянскіх запаведзяў "не ўкрадзі", падобна на тое, ігнаруюць у нас суайчыннікі ад маладых гадоў да глыбокай старасці.**

Вось і жыхар Наваполацка днямі звярнуўся ў міліцыю з заявай, што ў яго ўкралі кашалёк з грашыма, пакінуты на нейкі момант без нагляду ў адным з мясцовых магазінаў. Раскрыць гэта злачынства супрацоўнікам праваахоўных органаў аказалася даволі проста. Яны дэталёва прагледзелі здымкікамерывідэаназірання, якімі абсталяваны гэты гандлёвы цэнтр, і аператыўна выйшлі на зламысніка. Да іх здзіўлення злодзеем аказалася пажылая, 74-гадовая пенсіянерка. Праўда, старая нядоўга радавалася, што забрала з прылаўка партмане, у якім былі 130 долараў і 1,7 млн. рублёў. Па гэтым факце распачата крымільная справа, і суд разбярэцца, як пакараць гэту старую з замашкамі нахабнага злодзея. Таксама і трое даволі маладых мясцовых хлопцаў з Полацка патрапілі ў яшчэ больш сур'ёзны пераплёт. Яны не ўлічылі, што айчынныя следчыя працуюць высокапрафесійна і за кароткі тэрмін выйдуць на след тых, хто сёлета дзёрзкім чынам абрабаваў некалькі паштовых аддзяленняў у Верхнядзвінскім і Шумілінскім раёнах. Злачынцы ва ўзросце ад 25 да 28 гадоў, двое з якіх былі ўжо судзімыя, распрацавалі схему налётаў пад покрывам цемры. Яны прыязджалі на аўтамабілі, без асаблівых перашкод прабіраліся ў памяшканні і забіралі адтуль грошы, прамтавары і прадукты харчавання, якімі гандлююць работнікі пошты. Цяпер за серыю такіх крадзяжоў крымінальная тройка надоўга адправіцца за краты.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 10.09.15 | | | | Пятніца 11.09.15 | | | | Субота 12.09.15 | | | | Нядзеля 13.09.15 | | | | Пан. 14.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +7 | +9 | +15 | +10 | +10 | +11 | +15 | +11 | +10 | +10 | +16 | +11 | +9 | +9 | +13 | +10 | +6 | +9 | +13 |
| Ціск | 756 | 757 | 758 | 759 | 760 | 761 | 762 | 761 | 761 | 761 | 760 | 760 | 760 | 760 | 760 | 759 | 759 | 758 | 757 |
| Вецер м/сек | 2 С | 0 ШТЛ | 3 С | 2 В | 1 В | 3 В | 3 В | 2 С-В | 3 В | 5 В | 4 В | 4 В | 4 Ю-В | 5 Ю-В | 3 Ю-В | 4 Ю-В | 3 Ю-В | 5 Ю-В | 4 Ю-В |
| Вільготнасць | 100 | 97 | 67 | 96 | 97 | 92 | 69 | 94 | 98 | 90 | 69 | 80 | 84 | 87 | 68 | 81 | 95 | 91 | 74 |

### Аб самым надзённым

# З кожным месяцам для Беларусі членства ў Еўразійскім эканамічным саюзе прыносіць толькі новыя праблемы




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Усіх цікавіць, што будзе з нацвалютай далей, але нават дасведчаныя спецыялісты не могуць зрабіць дакладны прагноз. Той жа долар нават да выбараў можа падрасці да 20 тысяч, альбо і апусціцца да 16 тысяч, калі ўмацуецца расійскі рубель.**

Не сакрэт, што вельмі шмат суайчыннікаў старэйшага пакалення дагэтуль з настальгіяй узгадваюць савецкае мінулае і хацелі б вярнуць, каб гэта было магчыма, тыя часы. У пэўнай ступені прыслухоўваецца да такіх настрояў і кіраўніцтва краіны, бо ў нас захавалася па-сутнасці савецкая планава-камандная структура эканомікі. Беларусь вельмі цесна прывязалася да Расіі, не пайшла на Захад, як дзяржавы Прыбалтыкі і куды цяпер імкнуцца інтэгрыравацца малдаване, грузіны і украінцы. Наша краіна наадварот уступіла ў Мытны саюз, колькі часу ўжо будуе міфічную Саюзную дзяржаву з РФ, а цяпер вось стала членам праслаўтага ЕАЭС.

За любы свой выбар і ўчынак кожнага чалавека чакае немінуемая расплата. Вось і беларусы дачакаліся сур'ёзнага эканамічнага крызісу, які толькі пачынаецца. Калі яшчэ да выбараў улады пастараюцца неяк захаваць стабільнасць, то што будзе далей, нават не хочацца думаць. Адна надзея, што Беларусь зможа зноў неяк дамовіцца з саюзнікамі, альбо з Еўразійскім фондам стабілізацыі і развіцця і атрымае так моцна патрэбныя чарговыя 3 млрд. долараў крэдыту. Між тым, хто не ведае, за дзве апошнія пяцігодкі, пачынаючы з 2006 года, Беларусь павялічыла свой дзяржаўны доўг у 21,7 разы. З такімі тэмпамі знешніх пазык нас можа неўзабаве напаткаць горкі лёс Грэцыі, дзе зноў аб'явілі датэрміновыя выбары.

А пакуль сёлета моцна ліхарадзіць не толькі нашага асноўнага гандлёвага партнёра на бяскрайніх расійскіх прасторах. У Расіі пачалі расці летам шматмільярдныя даўгі па зарплаце, прыкметна вырaслі беспрацоўе і спажывецкія цэны. Як толькі цэны на нафту дасягнулі гістарычнага мінімуму, то расійская нацвалюта пачала імкліва слабець і канца дна яе падзення, па ацэнках спецыялістаў, не бачна. Відавочна адно, што пакуль будзе падаць кошт нафты, долар будзе расці. Услед за аслабеўшым расійскім рублём яшчэ адзін наш партнёр па ЕАЭС Казахстан на трэць дэвальвіраваў за адзін дзень сваю нацвалюту – тэнге, на падобныя меры пайшлі і кіргізы, яшчэ раней узніклі такія праблемы і ў армян.

Зразумела, што і сітуацыя на айчынным валютным рынку стала трывожнай. У апошнія дні сёлетняга лета курс долара ў абменніках дасягнуў 17 тысяч, а потым долар і еўра на таргах у Мінску пачалі расці яшчэ больш шпаркімі тэмпамі. Сярэднямесячныя зарробкі беларусаў упалі на ўзровень 2009 года. За адзін мільён рублёў такім чынам можна атрымаць было толькі 60 долараў. Наша краіна, праўда, працягвала захоўваць сумніўнае лідарства ў Мытным саюзе па росце цэн.

Мяркуючы па цяперашнім развіцці падзей і з выхадам Ірана на сусветныя рынкі энерганосьбітаў, цана "чорнага золата" будзе зніжацца і надалей, да 40 долараў за барэль, а можа і меней. Для нас гэта азначае, у чым можна не сумнявацца, непазбежнае правядзенне пасля выбараў чарговай дэвальвацыі беларускага рубля, бо прадоўжыць слабець і рубль РФ. Ды і многія людзі маральна былі гатовыя яшчэ летам да таго, што за долар напрыканцы года прыйдзецца выкласці ў раёне 20 тысяч.

Вось што цікава, раней шага ажыятажу на валютным рынку зараз можа і не быць, бо ў насельніцтва на руках небагата свабодных грошай, паколькі паўгода падаюць рэальныя даходы. І ў наступным годзе прадоўжыцца рэцэсія расійскай эканомікі, ярубль будзе слабым і таму разлічваць на хуткі выхад з крызісу беларускай эканомікі не прыходзіцца. Невыпадкова ў гэтым годзе валавы рэгіянальны прадукт знізіўся ва ўсіх абласцях краіны і ў беларускай сталіцы, а сталічная Мінская вобласць стала "лідарам" па запазычанасці па нявыплачаных зарплатах. Беларусы яшчэ летам пачалі пераводзіць свае рублёвыя дэпазіты ў банках у валютныя.

На гэтым фоне наш "Банк Бел ВЭБ" першым сярод айчынных банкаўскіх устаноў устанавіў аўтаматычную дэпазітную машыну. Яна запрацавала ў адным з гандлёвых цэнтраў вядучай беларускай сеткі гандлю "Еўраопт" і прасунутыя кліенты банка эканомяць свой час, здаюць самі грашовую выручку, папаўняюць свае рахункі. Астатнія беларусы напрыканцы жніўня сталі сведкамі чарговага "чорнага панядзелка", калі за адзін спякотны жнівеньскі дзень курс USD у адносінах да нацвалюты вырас адразу на 5 %. Не трэба быць вялікім эканамістам, каб зразумець, што адбываюцца такія абвалы найперш ад моцнай прывязцы беларускага рубля да расійскага. Мы ж з расіянамі шмат гандлюем, праўда, апошнія часам гэтыя аб'ёмы падаюць і апусціцца ў раён 36 % (прыкладна столькі цяпер наш знешнегандлёвы абарот і з Еўрасаюзам).

Усіх цікавіць, што будзе з нацвалютай далей, але нават дасведчаныя спецыялісты не могуць зрабіць дакладны прагноз. Той жа долар нават да выбараў можа падрасці да 20 тысяч, альбо і апусціцца да 16 тысяч, калі ўмацуецца расійскі рубель. Пакуль адно відавочна, што разам з "зялёненькім" на свабоду адпусцілі адразу 6 палітзняволеных, што адкрывае для Беларусі шлях для далейшага пацяплення і паляпшэння адносін з Еўрасаюзам, іншымі краінамі Захаду і ЗША. У гэтым наша краіна цяпер вельмі зацікаўлена, бо беларусам жыццёва неабходна выходзіць на іншыя рынкі збыту замест "прасеўшага" надоўга расійскага…

## Дзень за днём

**З пачатку года ВУП Беларусі знізіўся на 4 %, апошнія паўгода падаюць рэальныя даходы насельніцтва. Беларускі экспарт у першым паўгоддзі скараціўся на 5 млрд. USD. Урады Ізраіля і Туніса адмянілі візавы рэжым для Беларусі. А. Лукашэнка загадаў умацаваць граніцу з Украінай працягласцю 1084 км з-за пагрозы пранікнення адтуль зброі. Напярэдадні 1 верасня па краіне закрылі яшчэ 45 малакамплектных школ. Змяніліся тэрміны аплаты за тэлефон і інтэрнэт, не пазней за 1-е чысло наступнага месяца. Паўсюдна ў Беларусі створаць камісіі па супрацьдзеянні экстрэмізму.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бразілія.** Сотні тысяч чалавек выйшлі на вуліцы буйнейшых гарадоў краіны з патрабаваннем адхіліць ад улады за карупцыю і крызіс дзеючага прэзідэнта Дзілму Русеф.

**Эстонія.** МЗС краіны рэзка асудзіў прыгавор Пскоўскага абласнога суда 15 гадоў турмы контрразведчыку Э. Кохверу, якога скралі спецслужбы РФ на эстонскай тэрыторыі.

**Германія.** Пры такіх цэнах на нафту і тэмпах змяншэння рэзерваў, як заявіў экс-віцэ-прэм'ер РФ Альфрэд Кох, у Пуціна не застанецца хутка грошай на армію і на прапаганду.

**Расія.** Па надуманых прычынах Расспажыўнагляд забараніў увоз шпротаў з Польшчы і асобных партый амерыканскіх він, у продажы сталі забараняць і амерыканскія віскі.

**Кітай.** Пасля серыі магутных выбухаў на хімічным складзе ў порце Цяньцзінь і гібелі там 112 чалавек сам горад стаў падобным на разбураны Сталінград, пацярпелла не адна тысяча людзей.

**Украіна.** Расійская агрэсія зрабіла цуд, як заявіў глава Адэскай вобласці М. Саакашвілі, нават раней прарасійскія рэгіёны на ўсходзе краіны канчаткова зрабілі празаходні выбар.

**Расія.** На аператыўнай нарадзе ў Крамлі пад старшынствам У. Пуціна, як паведаміла "Независимая газета" вырашылі падтрымаць "ДНР з ЛНР" пры аднаўленні там вайны.

**Бельгія.** ЕС папярэдзіў Расію аб аўтаматычным увядзенні новых санкцый у выпадку наступлення прарасійскіх баевікоў на Марыупаль і абвастрэнні сітуацыі ў Данбасе.

**Фінляндыя.** Фінская кампанія "Gasum Oy" падала іск на расійскага манапаліста "Газпрам" у Стакгольмскі арбітраж з патрабаваннем знізіць завышаную цану на газ.

**Расія.** Асацыяцыя тэкстыльшчыкаў РФ звярнулася са зваротам да У. Пуціна пачаць услед за прадуктамі знішчаць і замежнае адзенне з швейных фабрык краін ЕС.

**Тайланд.** Паліцыя высветліла, што выбух ля святыні ў Бангкоку, які забраў жыцці 20 мірных людзей, арганізавала падрыхтаваная група зламысніцкаў-ісламістаў.

**Расія.** Паліцыя затрымала адразу 10 праваслаўных фанатыкаў руху "Божая воля" у Маскве, якія спрабавалі разграміць выставу скульптур 60-70-х гадоў мінулага стагоддзя.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў аб'явіў аб жорсткай эканоміі дзяржрасходаў, бо нізкія сусветныя цэны на нафту па 30-40 USD пратрымаюцца яшчэ бліжэйшыя 5 гадоў.

**Украіна.** У анексіраваным Крыме, нягледзячы на планы Пуціна аб росквіце курортнага турызму, цэны на адпачынак зраўняліся з Турцыяй, турыстаў стала меней у 2 разы.

**Расія.** У прамым эфіры тэлеканала НТН у Новасібірску журналістка Марыя Лондан чэсна назвала шызоіднымі дзеянні крамлёўскай улады на чале з Пуціным, народ вельмі збяднеў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Без замежных крэдытаў, як папярэдзіў фінансавы аналітык Вадзім Іасуб, краіна яшчэ працягне паўгода, але сур'ёзныя праблемы могуць пачацца ў 2016 годзе.

**Гродна.** З-за няспрыяльных умоў працы і збяднення людзей колькасць індывідуальных прадпрымальнікаў зменшылася больш чым на 700 чалавек, на рынках шмат пустых месц.

**Шчучын.** У вёсцы Ражанка фірма "Аграхімсвет" запусціла першую ў вобласці сонечную электрастанцыю магутнасцю 1,2 МВт, штодзень яна вырабляе 8500 кВт/г энергіі.

**Мінск.** Міністр працы і сацабароны М. Шчоткіна паведаміла пра зблiжэнне ў Беларусі пенсійнага ўзросту мужчын і жанчын 55 гадоў, што на 10 год ніжэй, чым у свеце і ЕС.

**Смаргонь.** У адной з вёсак раёна п'яны 36-гадовы мужчына задушыў свайго зводнага брата-інваліда 45 гадоў за адмову даць грошай на выпіўку і закапаў яго на могілках.

**Мінск.** Пасля выбараў, як заўважыў палітолаг В. Карбалевіч, у краіне нічога не зменіцца, але тарыфы ЖКГ і цэны на праезд на транспарце вырастуць, як патрабуюць крэдыторы.

**Брэст.** Не толькі ўскраіны, але і цэнтр горада накрыў моцны пах гары і смог з-за пажару на тарфяных балотах Украіны, што на адлегласці 40-50 км ад абласнога цэнтра.

**Кобрын.** На вачах гараджан, гуляўшых днём па набярэжнай ракі Мухавец у 33-гадовага мужчыны адбыўся прыступ эпілепсіі, ён страціў прытомнасць, упаў у ваду і загінуў.

**Гродна.** Яшчэ двух журналістаў А. Кіркевіча і А. Дзянісава пакараў суд штрафамі па 4,5 млн. рублёў за выраб сюжэта пра выставу лялек для тэлеканала Белсат, гэта 30 такі факт.

**Мінск.** Такога эканамічнага крызісу, як зараз, як заявіў старшыня прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч, Беларусь не ведала за ўвесь час праўлення А. Лукашэнкі, а праблемы растуць.

**Івацэвічы.** Новы глава Беларускага саюза жанчын М. Шчоткіна прыехала ў райбальніцу, каб разабрацца, ці могуць бацькі-інваліды выхоўваць іх здаровага нованароджанага сына.

**Капыль.** Так моцна пасварылася сямейная пара мінчан, што 27-гадовая жонка на дарозе ля вёскі Загароўшчыны вечарам на хаду выскачыла з салона Opel і загінула ад траўм.

**Светлагорск.** На дачы ў знаёмых жыхара райцэнтра ўкусіла аса, пасля вяртання дамоў у яго моцна апух твар і мужчына памёр у машыне "хуткай дапамогі" на дарозе ў бальніцу.

**Дразды.** У самым элітным пасёлку краіны апячаталі катэдж і арыштавалі маёмасць мільярдэра У. Япрынцава, суўладальніка фірмы "Трайпл", вядомага барца затрымаў КДБ.

**Мінск.** Перад самым пачаткам сезона ХК "Дынама" звольніў лепшага ў гісторыі в. а. гендырэктара У. Беражкова, а праз дзень яго арыштавалі за сумніўныя нібыта крадзяжы.

# Улады распавялі, на што гатовыя, каб утаймаваць інфляцыю



■ **TUT.BY**

**Урад і Нацбанк сумеснай пастановай № 733 ад 31 жніўня зацвердзілі антыінфляцыйную праграму, рэалізацыя якой у 2015-2016-м гадах павінна забяспечыць зніжэнне інфляцыі з 2017 года да аднаназначнага ліку.**

Нацбанк абяцае падтрымліваць станоўчыя ў рэальным выразе стаўкі грашовага рынку, праводзіць грашова-крэдытную палітыку ў рэжыме манетарнага таргетавання і гнуткую курсавую палітыку.

З непапулярных у насельніцтва мер: павышэнне ўзроўню кампенсацыі грамадзянамі кошту жыллёва-камунальных і транспартных паслуг. Але гэтыя крокі распрацоўшчыкі абяцаюць увязваць з ростам іх даходаў. Графік змены коштаў павінен быць гатовы да канца года. Акрамя таго, плануецца папрацаваць над аптымізацыяй выдаткаў на аказанне жыллёва-камунальных і транспартных паслуг і прапрацаваць пытанне аб магчымасці ўвядзення планава-разліковых цэн на пасажырскія перавозкі гарадскім транспартам і прыгарадных аўтатранспартам для вызначэння велічыні бюджэтнага субсідзіравання. Тарыфы ЖКГ таксама хочуць дыферэнцаваць па ўвязцы з аб'ёмамі спажывання паслуг.

Пры гэтым тарыфы на электраэнергію і кошты на прыродны газ плануецца захаваць на ўзроўні 2015 года, але «з улікам змянення абменнага курсу беларускага рубля». У 2016-м годзе карыстальнікаў чакае ўвядзенне дыферэнцыраваных тарыфаў на цеплавую энергію ў залежнасці ад відаў і параметраў цепланосбіта (хоць асобным неадзначаным катэгорыям абяцаюць захаваць дзейсныя падыходы).

Праграмай прадугледжана захаванне ставак акцызаў на бензін і дызпаліва на ўзроўні 2015 года, а таксама паэтапная індэксацыя ставак акцызаў на газ, які выкарыстоўваецца ў якасці аўтамабільнага паліва, і масла для аўтамабіляў у межах прагназуемага параметра інфляцыі (у цэлым на 12% з разбіўкай па паўгоддзях).

Дзеля ўтаймавання інфляцыі ўрад і Нацбанк маюць намер узмацніць кантроль за эканамічнай канцэнтрацыяй на таварных рынках, каб змагацца з манапалістамі. Для стабілізацыі цэн абяцаюць таксама «закупачныя і таварныя інтэрвенцыі» на рынку спажывецкіх тавараў.

Для прафілактыкі росту коштаў на вёсцы буйныя крамы і гандлёвыя сеткі вырашана прыцягнуць да арганізацыі выязнога абслугоўвання насельніцтва ў малых населеных пунктах.

Згодна з дакументам, сціснуць давядзецца і па раней шчодра фінансуемыя дзяржпраграмы: на іх у 2015 годзе вырашана выдаткаваць не больш за 44200000000000 рублёў, у 2016 - не больш за 42 трлн.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Трэць аўтобуснага парку вобласці знасілася поўнасцю, яго нельга выпускаць на маршруты, але купілі толькі 10 новых прыгарадных аўтобусаў пры патрэбнасці 70 штук.

**Сянно.** Раённы цэнтр зацвердзілі месцам правядзення штогадовага фестываля-ярмаркі працаўнікоў сельскай гаспадаркі "Дажынкі-2016", там шмат праблем з водаправодам.

**Лепель.** Факты нестатутных узаемаадносін сярод ваеннаслужачых выявілі ў мясцовым гарнізоне Заслонава, калі віну "дзядоў" дакажуць, ім пагражае да 12 гадоў турмы.

**Верхнядзвінск.** Каля 4-х гадзін раніцы ля вёскі Гаўрыліны пагранічнікі затрымалі групу з 8 нелегальных мігрантаў з В'етнама, якія хацелі незаконным шляхам перасекчы латвійскую граніцу.

**Глыбокае.** У самым маладым жылым мікраранёне горада Паўночны ўрачыста адкрылі новае аддзяленне паштовай сувязі, у гарпасёлку Падсвілле вырашана збудаваць фантан.

**Варапаева.** На мяжы выжывання апынуўся мясцовы завод жалезабетонных вырабаў, ён загружаны заказамі толькі на трэць ад магутнасцей з-за малых аб'ёмаў будаўніцтва.

**Віцебск.** Абласны суд пакараў 31-гадовага беспрацоўнага гараджаніна пажыццёвым зняволеннем за наўмыснае забойства з асаблівай жорсткасцю ў 2014 годзе.

**Орша.** Частку зарплаты работнікам мясцовага льнокамбіната аддалі прадукцыяй прадпрыемства – камплектамі пасцельнай бялізны, што не ўсім спадабалася.

**Шаркаўшчына.** У выніку пажара на тэрыторыі Германавіцкага лясніцтва агонь знішчыў 2 гектары лесу балот Ельні, полымя тушылі 200 чалавек і 10 адзінак рознай тэхнікі.

**Браслаў.** Белспажыўсаюз перадаў Пастаўскаму раённаму спажывецкаму таварыству збанкрутаваны цэнтральны універсам, пастаўчане яго абнавілі, "Родны кут" абзавёўся міні-пякарняй рулетаў, булак.

**Гарадок.** Ад 3 да 10 год турмы пагражае двум хуліганам, якія моцна п'яныя спрабавалі разбудзіць свайго сабутэльніка на дачы стрэламі з пнеўматычнага пісталета, ранілі яго.

**Докшыцы.** Пасля вельмі моцнай спёкі ў адну з начэй напрыканцы лета тэмпература паветра апусцілася да анамальна нізкай адзнакі ўсяго + 2,4 градусы цяпла.

**Чашнікі.** Ноччу ля вёскі Лукомль малады 22-гадовы вадзіцель з Оршы зляцеў з іншамаркай з дарогі ў кювет, ударыўся ў дрэва і загінуў на месцы дарожна-транспартнага здарэння.

**Дуброўна.** З дапамогай мясцовых краязнаўцаў выйшла ў свет кніга "Легенды Дубровенскага краю" пра мясцовыя славутасці, версіі паходжання цікавых месц раёна.

**Полацк.** З-за моцнай засухі і спёкі перасохла крыніца з цалебнай вадой ля Сафійскага сабора, якая не замярзала нават зімой, бо ападкаў у жніўні выпала 0,3 мм пры норме 76.

*Служба інфармацыі ВГ".*

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Самы вялікі камень Глыбоччыны – у "Цэнтры Еўропы"

**Глыбокае ніколі не пагодзіцца, што Полацк, як "старэйшы брат", "валявым рашэннем" забраў у Глыбоцкага раёна "Цэнтр Еўропы" ды адзначыў яго ў сябе, і нідзе-небудзь, а ў самым цэнтры горада, побач з гатэлем "Дзвіна".**

**А што ёсць у тым глыбоцкім "Цэнтры Еўропы"? Пяць азёраў, з якіх самае вялікае возера Глыбоччыны – Шо** *(па-шведску "Шо", проста –"Возера", сам Стэфан Эрыксан мне, асабіста, пацвердзіў!)*, **самае глыбокае возера Беларусі – Доўгае, найчысцейшае возера краіны – Белае, а наўпрост, побач – Галубіцкая пушча. І адзін з найвялікшых камянёў Беларусі!**

Нашая глыбоцкая БАЖаўская суполка лёгкая па пад'ём. Варта кінуць нейкі кліч, напрыклад – "Едзем у Себеж!" – як ад ахвотных няма адбою.

І тут, раптам, усе згадалі, што яшчэ не бачылі самы вялікі камень Глыбоччыны, да якога даўно збіраліся даехаць. Ляжыць ён у "Цэнтры Еўропы", на самым ускрайку Галубіцкай пушчы, ля самага празрыстага возера Беларусі – Белага. Само возера – гідралагічны заказнік, эталоннае па чысціні возера. Праз возера некалі праходзіла мяжа Віленскай і Віцебскай губерняў, а з 1921 па 1939 гг – польска-савецкая мяжа, а сёння, па тым самым месцы, – мяжа Глыбоцкага і Ушацкага раёнаў. Большая частка возера – глыбоцкая, меншая – ушацкая.

Нашым праваднікам стаў Віктар Жаваранак, жыхар вёскі Хралы, кіроўца аўтамабіля Псуеўскага лясніцтва, якое з'яўляецца структурай "Дзвінскай эксперыментальнай лясной базы Інстытута леса НАН Беларусі" (г.п. Падсвілле). Не ў кожным жа лясгасе ёсць такі кіроўца са здольнасцямі краязнаўцы і экскурсавода!

Віктар усё жыццё марыў знайсці месца спачыну Паўла Палчынскага, камандзіра польскай заставы Каменны Воз, які 17 верасня 1939 г на досвітку прыняў няроўны бой з ордамі чырвонаармейцаў, што перайшлі дзяржаўную мяжу. Ён паклаў з кулямёта пад шэсць дзясяткаў парушальнікаў мяжы. І сам загінуў… Усе пасляваенныя дзесяцігоддзі, у гэтым наваколлі, ён быў легендай для людзей сталага веку. Менавіта Віктар і знайшоў парэшткі польскага афіцэра, калі пры ўстройстве пажарабяспечнай паласы ў пушчы, недалёка ад падмуркаў колішняй заставы Каменны Воз, калі пад плугам агаліліся чалавечыя косткі. Парэшткі Паўла Палчынскага 17 верасня 2011 г, з удзелам мясцовай улады і прадстаўнікоў польскай амбасады, былі ўрачыста перапахаваныя ў Глыбокім на цвінтары Копцеўка, дзе пахаваныя польскія жаўнеры, што загінулі за адраджэнне 2-й Рэчы Паспалітай.

*– Па дарозе да каменя я пакажу вам плантацыі яліны еўрапейскай,– кажа Віктар. – Наша беларуская яліна звычайная ў сувязі са зменай клімату знікае. Усё далей адыходзіць на Поўнач. Праз колькі дзесяцігоддзяў яе ўжо можа і не быць. У замену наступаюць шыракалісцевыя лясы. Нашу яліну мусіць змяніць яліна еўрапейская.*

І, сапраўды, калі ехалі па ўскрайку пушчы, нам з вокнаў мікрааўтобуса спрэч адкрываліся краявіды, дзе на месцы колішніх высечак хвойных пародаў ужо густой сцяной – у рост чалавека, а то і два – узнімаліся маладыя дубравы. Яшчэ колькі дзесяцігоддзяў таму такога не назіралася. Спілавалі лес, пасадзілі ізноў сосны ці яліны. Цяпер жа ў цені хвояў і ялінаў чакае свайго часу густы падлесак з самасеву дубоў. І гэты час настае, калі спілавалі чарговую дзялянку лесу…



**Найвялікшы камень Глыбоччыны ляжыць ля самага празрыстага возера Беларусі – Белага, недалёка ад мяжы Глыбоцкага і Ушацкага раёнаў.**

Прыехалі. Прыгожы Яловы бор. Выразныя шэрагі і лініі ялінаў – гэты бор пасаджаны чалавекам. Вялікі банэр паведамляў, што тут –"**Лясны генетычны банк яліны еўрапейскай плошчай 15,5 га. Гады стварэння** 1982-1987".

Шаты дрэваў змыкаюцца ўверсе. Тунэль! І свет у канцы тунэля. У "тунэлях" – ніякай травы, толькі ігліца. Месцамі – зялёны мох.

– Сапраўднае баравіковае месца!– кажу Віктару.

*– Так! Усім хапае! Толькі ў гэтым годзе засушыла, ніякіх грыбоў няма.*

– А чым радыкальна адрозніваецца нашая абарыгенная яліна ад яліны еўрапейскай? Я не бачу пакуль ніякай розніцы! Тыя ж іголкі, такі ж ствол… Ну, хіба, сілуэт больш "гатычны",– кажу Віктару.

*– Ну, каб не адрознівалася, то не прыязджалі б сюды экскурсіі цэлымі аўтобусамі. І немцы прыязджалі, і палякі… А яны – адмыслоўцы ў ляснай гаспадарцы!*

Да самага вялікага каменя Глыбоччыны трэба было яшчэ прайсці метраў 300.

– Ты ж, Віця, не завядзі нас да "бальшавікоў" (то бок ва Ушацкі раён)! – жартую я. – Нам важна, каб гэты камень, рэальна, ляжаў на Глыбоччыне!

*– Гарантую, што гэты камень не ляжыць у "бальшавікоў", ён – наш!*

Пасадкі, раптам, скончыліся і паўстаў зусім іншы лес. Яліны "нашыя" – нейкія куртатыя, не пухнатыя, уперамешку з арэшнікам, бярозай і рабінай. Пачалі пад нагамі трапляцца шматлікія камяні. Нібыта гэтую частку лесу нехта наўмысна забрукаваў. Калі не быць пільным, не глядзець пад ногі, то можна і спатыкнуцца. Цяжка ацаніць памеры гэтых камянёў, бо зверху, над зямлёй, выступаюць яны ўсяго на некалькі сантыметраў…




**Банэр у лесе са схемай пасадак яліны еўрапейскай розных гадоў.**



**Прыгожая "готыка" пасадак яліны еўрапейскай. Будучыня нашых хваёвых бароў!**

Прыйшлі. Камень, сапраўды, уражвае сваімі памерамі! Вылазіць на паверхню са схіла невялікага пагорка. А колькі яго можа быць схавана ў нетрах зямлі?

Абачліва ўзялі з сабой рулетку. Памерылі: даўжыня – 6,10, папярок – 4,00, увышыню – 2,90. Але гэта – бачныя памеры. Закладзены побач шурф глыбінёй пад 70 см, сведчыць – няма ніякіх прыкметаў, што скончылася вышыня каменя, яна сягае далей. Хто ведае, мо тая вышыня, насамрэч, большая за даўжыню?

Камень, некалькі гадоў таму, выдадкова знайшлі леснікі. Чаму яго не ўбачылі раней? Ну, напрыклад, польскія жаўнеры КАПа, мяжа ж – побач! Ды ўсё проста! Камень шчыльна быў пакрыты зялёным мохам, а мохам пакрыта тут і зямля. Здагадайся! Віктар агаліў камень ад моха і яго цяпер могуць пагладзіць усе ахвотныя, у тым ліку і экскурсанты, нават замежныя.

***

Між тым аўтару гэтых радкоў не давала спакою адно пытанне: "Чым, усё ж, адрозніваецца нашая беларуская абарыгенная яліна ад яліны еўрапейскай?"

Патэлефанаваў старому знаёмаму Аляксандру Красілевічу, біёлагу па адукацыі, які некалі быў экскурсаводам па "Цэнтру Еўропы".

Калі аўтар гэтай нататкі "памешаны" на замках, палацах, цэрквах і касцёлах, то ён – на біялогіі.

Аляксандр неяк апавядаў, як закідваў у возера Белае спінінг і даставаў з глыбіняў мох фанціналіс, які часта выкарыстоўваюць у акварыумах, і паказваў яго школьнікам, якія прыехалі сюды на экскурсію. Жыве тут – па словах Аляксандра – качка гогаль, якая гняздуецца … на дрэвах! А колькі ўжо чырвонакніжных раслінаў! Не пералічыш!

– Ну, як не адрозніваецца?– пярэчыць Аляксандр. – *Спецыялісты адрозніваюць! Яліна еўрапейская адрозніваецца больш паўднёвым арэалам вырастання, больш пухнатае і прыгажэйшае дрэва. Нашай яліны ўжо няма па лініі Брэст-Гомель. І ў нас, на поўначы Беларусі, яліна гіне! Нядаўна я наведаўся ў лес ля Варапаева (Пастаўскі раён). Жахлівае відовішча! Асабліва ў гэтае спякотнае лета. Стаяць на пяску сухія маладыя яліны! А іх ужо точаць жукі!*

– Ведаю той вялікі валун! *Я ж планаваў паставіць яго ў "Цэнтры Еўропы" (ля возера Шо), як памятны знак. Дамовіўся з дарожнікамі, прыгнаў тэхніку: кран, Амкадор, цягач…, хацелі ўжо заняцца пагрузкай…*

– І табе далі тэхніку, якая здольная была не толькі падняць камень, але і транспартаваць яго кіламетры чатыры? Хто даў гарантыю, што бачная частка і ёсць сапраўдны памер каменя? Ці далі б вы з ім рады!?

*– Мы нават не змаглі паспрабаваць! З Глыбокага патэлефанавалі: "Адбой! Не чапаць!"*

*А цяпер што? "Цэнтр Еўропы" – у Полацку! А нас жа тады Полацк абвінаваціў, што Глыбокае і калка ў "Цэнтры Еўропы" за восем гадоў нават і не зачасала, то навошта тады Глыбокаму той "Цэнтр Еўропы"?*

І забралі…



**Святло ў канцы тунэля! Маргарыта – дачка відэажурналіста Леаніда Юрыка.**

# На Глыбоччыне прайшоў Magnificat-2015

**Кінафестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм у адзінаццаты раз праходзіў з 30 жніўня па 3 верасня.**

■ **Зміцер Лупач**

Распачаўся ён у нядзелю 30 жніўня ў Мінску, а ўжо на наступны дзень удзельнікі мерапрыемства прыехалі ў Глыбокае.

1 верасня госці наведалі Удзела, адкуль у свой час і пачынаўся гэты кінафестываль. Яго ўдзельнікі наведалі музей Максімільяна Кольбэ, з'ездзілі ў Мосар. Таксама ў Удзеле быў арганізаваны прагляд некалькіх стужак, адна з якіх і распавядала пра Максімільяна Кольбэ, які пазней быў прызнаны святым.

Таксама ў гэты дзень быў арганізаваны прагляд фільмаў і ў Падсвіллі. Пра адзін з іх хочацца распавесці больш падрабязна. Гэта фільм кінарэжысёра з Масквы Наталлі Кандудзінай "Возера".

Фільм распавядае пра тое, як у 1936 годзе з Украіны былі прымусова выселеныя ў паўночны Казахстан польскія сем'і. Іх прывезлі ў чэрвені ў голы стэп, дзе яны павінны былі пабудаваць сабе жыллё і выжываць. Шмат людзей памёрла ад голаду. Але людзі шчыра маліліся па вечарах, хаця гэта і забаранялася, і шчырая вера ім дапамагла. Вясной наступнага года каля пасёлка ўтварылася вялікае возера, у якім у першы ж год было шмат рыбы. Гэта рыба і выратавала жыхароў пасёлка ад галоднай смерці.

Праходзілі гады, і вера людзей слабела. Таму і возера стала паступова мялець і змяншацца. Але калі не так даўно людзі пабудавалі ў сваім пасёлку храм, возера цудоўным чынам стала зноў паўнаводным.

Гэты фільм вельмі спадабаўся гледачам, яго пакуль няма ў вольным доступе ў Інтэрнэце (трэба ж дыскі прадаць!), але, як толькі ён з'явіцца, абавязкова паглядзіце!

Усераду 2 верасня прагляды праходзілі ў Глыбоцкім гарадскім Цэнтры культуры.

Сярод іншых была паказаная стужка нашых калег з Барысава Аляксандра Зянькова і Паўла Магіліна "І цемра не агарнула яго..."

Фільм распавядае пра тое, як у 1965 годзе кінастудыя "Таджыкфільм" здымала ў беларускай вёсцы Зембін мастацкі фільм "Параклічка". Рэжысёрам карціны быў Д. Храбравіцкі. Удзел у ім бралі шмат хто з расійскіх акцёраў, у тым ліку Мікіта Міхалкоў. Дзеля эфектнага эпізоду разбурылі праваслаўную царкву. Мінула паўвека, царкву, дзякуючы шматлікім ахвяравальнікам, адбудавалі. Мікіты Міхалкова сярод тых ахвяравальнікаў не было, хоць парафіяне неадройчы звярталіся да яго.

Пасля праглядаў святочная праграма працягвалася ў вёсцы Івесь. Спачатку на Алеі кінафестывалю было пасаджанае чарговае дрэва, на гэты раз ад Аргенціны, якая ў гэтым годзе ўпершыню ўдзельнічалаўкінафестывалі. Яе прадстаўнік не змог прыехаць на "Магніфікат", таму дрэва пасадзіў удзельнік з Арменіі Армэн Гаспаран. Чаму менавіта ён? Бо спадар Армэн прадстаўляў сумесны армяна-аргенцінскі фільм, у якім распавядалася пра адзначэнне ў гэтым годзе стагоддзя генацыду армян у Асманскай імперыі. Тады загінула больш за мільён ні ў чым невінных людзей.

Пасля пасадкі дрэва і ўскладання вянка да помніка загінуўшым у мінулай вайне госці змаглі пахадзіць па Алеі, сфатаграфавацца каля знаку, які паказвае Цэнтр Еўропы.

Як адзначыў старшыня кінафестывалю Юрый Гарулёў, факт пераносу цэнтра ў Полацк ён лічыць несправядлівым рашэннем. А сапраўдны Цэнтр, вядома ж, тут, на Глыбоччыне!

> **Старшыня кінафестывалю Юрый Гарулёў: "Факт пераносу Цэнтра Еўропы ў Полацк – лічу несправядлівым рашэннем! Цэнтр Еўропы, вядома ж, тут, на Глыбоччыне!"**

Пасля гасцей чакала культурная праграма, для іх былі паказаны канцэрт. Не абышлося і без лыжкі дзёгцю. Мясцовых жыхароў на канцэрт прадстаўнікі ўлады не пусцілі, хаця аб'ява каля клуба іх на яго запрашала. Не пускалі туды і незалежных журналістаў. Ну гэта ж вядома, а раптам напішуць што не так! Па нейкай злой іроніі год назад аб'ява на тым жа шчыце запрашала жыхароў Івесі на свята вёскі. Замест свята атрымалася тады "Крывавая субота", калі жыхароў Івесі і суседніх вёсак прымусілі тэрмінова выразаць свіней. Маўляў, знайшлі чуму. Пазней аказалася, што ніякай чумы не было. Дык можа шчыт з аб'явамі стаіць у нейкай анамальнай зоне, і яго варта перанесці? А то тое, што на ім аб'яўляецца, збываецца з дакладнасцю наадварот.

Але вернемся да "Магніфікату". Ён завяршыўся у чацвер 3 верасня ў Глыбоцкім ГЦК. Усе фільмы былі адзначаны ганаровымі дыпломамі і прызамі. Ну а галоўную ўзнагароду атрымаў фільм чэшскіх аўтараў "Кірыл і Мяфодзій". Фільм распавядае пра місіянерскую дзейнасць братоў, пра іх значэнне для славянскай культуры.

Прыз журы за лепшы дакументальны фільм атрымала беларуская стужка "Два Андрэі" рэжысёра Галіны Адамовіч, прыз журы за лепшую тэлепраграму атрымала расійская тэлепраграма "Іншы" рэжысёра Ірыны Васільевай. Дыпломам і прызам журы "За лепшую рэжысуру" ўзнагароджана польская карціна "Іаана" (рэжысёр – Анета Копач), прыз глядацкіх сімпатый прысуджаны анімацыйнаму фільму з Расіі "Заступніца", які зняла рэжысёр Наталля Федчанка.

У гэтым годзе прыз атрымаў і сам старшыня кінафестывалю Юрый Гарулёў, што стала для яго поўнай нечаканасцю.

Адзінаццаты фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм закончыў сваю працу. А на Глыбоччыне з нецярпеннем будуць чакаць наступнага года, калі ўдзельнікі "Магніфікату" парадуюць нас новымі карцінамі.



Пасадка дрэва ад Аргенціны.



Сустрэча гасцей у Івесі.



Аляксандр Зянькоў і Павел Магілін.



Юрый Гарулёў уручае галоўны прыз прадстаўніку Чэхіі.

АДАІ Глыбоцкага раёна інфармуе:

# Найбольшую недысцыплінаванасць пешаходы выяўляюць у вячэрні час і ў выходныя дні

■ А.І. Завадскі,
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС*

**З 1 верасня па 30 верасня 2015 года на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзяцца мерапрыемствы па выкананні распараджэння УУС Віцебскага аблвыканкама № 47 ад 19.08.2015 гады “Пра дадатковыя меры па прафілактыцы дарожна-транспартнага траўматызму сярод пешаходаў, веласіпедыстаў і вознікаў конных транспартных сродкаў”.**

Паважаныя пешаходы! Хацелася б нагадаць Вам пра тое, што пешаход, паводле правіл дарожнага руху надзелены не толькі правамі, але і абавязкамі, якія ён бесспрэчна павінен выконваць.

**Пешаход абавязаны:**

1. Рухацца па тратуару, пешаходнай дарожцы, а пры іх адсутнасці – па абочыне дарогі.

У выпадку адсутнасці ўказаных элементаў дарогі ці немагчымасці руху пешаходаў па іх дапушчаецца рух пешахода па краі праезнай часткі насустрач руху транспартных сродкаў, што часта па незразумелых прычынах ігнаруецца пешаходамі ў нашым горадзе, дзе мы назіраем іх рухомымі нават пасярод праезнай часткі, што можа прывесці да цяжкіх наступстваў.

Пры руху па краі праезнай часткі дарогі ў цёмны час сутак пешаход павінен пазначыць сябе светазваротным элементам.

2. Пераходзіць (перасякаць) праезную частку дарогі, па наземным пешаходным пераходзе, пераканаўшыся, што выхад на праезную частку дарогі бяспечны. Пры адсутнасці пешаходнага пераходу пераходзіць праезную частку на скрыжаванні па лініі тратуараў ці абочын. Дадзеныя патрабаванні правіл дарожнага руху таксама груба парушаюцца пешаходамі. Пешаходы часта не задумваюцца пра магчымыя сумныя наступствы, калі, не пераканаўшыся ў бяспецы сваіх дзеянняў, выходзяць на пешаходны пераход перад надыходзячым транспартам, яшчэ і размаўляючы па тэлефоне, не зважаючы на транспартныя сродкі. Перад здзяйсненнем пераходу вуліцы трэба ўлічваць такія фактары як рэакцыю кіроўцы, стан праезнай часткі, досвед кіроўцы, спраўнасць транспартнага сродку. Трэба заўсёды памятаць пра тое, што пешаход з’яўляецца самым уразлівым і неабароненым удзельнікам дарожнага руху, і дарожныя аварыі з удзелам пешаходаў маюць, як правіла, цяжкія наступствы. З 16 дарожна-транспартных здарэнняў, здзейсненых у 2014 годзе, вінаватымі ў іх здзяйсненні з’явіліся самі пешаходы, што сведчыць пра тое, што самыя недысцыплінаваныя ўдзельнікі дарожнага руху – пешаходы.

Асноўнымі прычынамі гібелі і ранення пешаходаў з’яўляюцца: раптоўны выхад на праезную частку, як пры наяўнасці пешаходных пераходаў, так і пры іх адсутнасці, раптоўны выхад пешаходаў на праезную частку з-за стаячага транспартнага сродку, знаходжанне на праезнай частцы ў п’яным выглядзе, пераход дарогі ў неўсталяваным месцы.

З мэтай папярэджання дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам пешаходаў у г. Глыбокае супрацоўнікамі АДАІ будуць праводзіцца мерапрыемствы, накіраваныя на выяўленні парушэнняў ПДР пешаходамі, а таксама на выяўленні недысцыплінаваных кіроўцаў, якія не прапускаюць пешаходаў, што распачалі рух па пешаходным пераходзе.

Найбольшую недысцыплінаванасць пешаходы выяўляюць у вячэрні час і ў выходныя дні на вул. Леніна, пераходзячы вуліцу ад магазіна рынку да “Еўраопта”, і побач крамы “Рагнеда”, груба парушаючы правілы пераходу вуліц, пераходзячы вуліцу па-за пешаходнымі пераходамі, хоць яны размешчаны ў зоне бачнасці пешахода.

Загадзя папярэджваем пешаходаў пра адміністрацыйную адказнасць за парушэнні правіл дарожнага руху:

Арт. 18.23 частка 1 КоАП Рэспублікі Беларусь прадугледжвае штраф у памеры ад 1 да 3 базавых велічынь г.зн. ад 180 000 да 540 000 рублёў.

Арт. 18.23 частка 2 КоАП Рэспублікі Беларусь, парушэнне ПДР пешаходам, здзейсненае ў стане алкагольнага ап’янення, а роўна адмова ад праходжання ва ўсталяваным парадку праверкі (агляду) на прадмет стану алкагольнага ап’янення цягне накладанне штрафу ад 3-х да 5 базавых велічынь, г.зн ад 540 000 да 900 000 рублёў.

Арт. 18.23 ч.3 КоАП Рэспублікі Беларусь, здзяйсненне пешаходамі парушэнняў ПДР, якія пацягнулі стварэнне аварыйнага становішча, цягне за сабой штраф ад 3-х да 8-мі базавых велічынь, г.зн. ад 540 000 да 1 440 000 рублёў.

Заклікаем усіх удзельнікаў дарожнага руху да праявы ўважлівасці і ўзаемапавагі. Выконваючы Правілы дарожнага руху, усцеражыце сябе і сваіх блізкіх ад ДТЗ. Правядзіце гутаркі са сваімі дзецьмі на тэму выканання правіл дарожнага руху пры знаходжанні на вуліцы. Памятайце, што Вас чакаюць дома.

# Выратавальнікам ізноў прыйшлося даставаць чалавека са студні, зараз у Глыбоцкім раёне

**Паведамленне пра чалавека, які не можа выбрацца са студні ў вёсцы Абруб-Беразвецкі Глыбоцкага раёна, выратавальнікі атрымалі 3 верасня ў 15:18.**




Па папярэдніх дадзеных, пры земляных работах на глыбіні шасці метраў адбыўся падмыў глебы, у выніку ў 59-гадовага мужчыны, які працаваў там, сталася заціснутай нага.

Выратавальнікамі пры дапамозе аварыйна-выратавальнага абсталявання пацярпелы быў выняты і перададзены брыгадзе хуткай дапамогі, паведамляе прэс-служба МНС.

За дзень да гэтага, 2 верасня, 51-гадовы мужчына, які капаў студню на прыватным падворку, зваліўся на глыбіню 12 метраў і зламаў нагу ў вёсцы Гараднянскі Мох Віцебскага раёна. Усяго ж за апошнія два месяцы на тэрыторыі вобласці выратавальнікі ўжо 5 разоў выязджалі на выманне людзей са студняў. Улічваючы засушлівае лета, у студнях знікае вада і ўладальнікі спрабуюць пачысціць студні ў надзеі прыбыцця вільгаці.

# Сёлета Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур упершыню пачнецца пад адкрытым небам

**Сёлета ўпершыню больш як за 20-гадовую гісторыю існавання Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур стартуе пад адкрытым небам. Аб гэтым паведаміў на прэс-канферэнцыі 7 верасня ў Мінску дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур (РЦНК) Міхаіл Рыбакоў.**

Фестываль пачнецца 12 верасня на праспекце Пераможцаў у межах святкавання Дня горада Мінска. У цырымоніі адкрыцця, паводле слоў Рыбакова, возьмуць удзел больш за 20 удзельнікаў, сярод якіх як калектывы прадстаўнікоў нацыянальных дыяспар, так і асобныя выканаўцы, што выступаюць у розных жанрах. У іх ліку ансамбль народнага танца “Сонечная Грузія”, ансамбль армянскага танца “Эрэбуні”, калектыў карэйскага танцавальнага і вакальнага майстэрства “Арыранг”, народны рускі хор імя Нікіцінай, украінскі фальклорны ансамбль “Ватра” і іншыя.

13 верасня ў рэгіёнах Беларусі стартуюць адборачныя этапы фестывалю. З верасня па снежань адборы пройдуць у Мёрах (Віцебская вобласць), Маларыце (Брэсцкая вобласць), Рагачове (Магілёўская вобласць), Лідзе (Гродзенская вобласць), Мінску, Маладзечне (Мінская вобласць) і Бабруйску (Магілёўская вобласць). Фінал XI Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур адбудзецца 3-4 чэрвеня 2016 года ў Гродне.

Як адзначыў Міхаіл Рыбакоў, найважнейшую задачу гэтага маштабнага праекта арганізатары бачаць у тым, каб “даць усім ахвотным магчымасць прадэманстраваць сваю творчасць”. Фестываль нацыянальных культур “стаў адной з візітовак Рэспублікі Беларусь” і з’яўляецца фестывалем “адзінства народаў і адзінства народа Беларусі”, дадаў дырэктар РЦНК.

“Гэты фестываль дагэтуль не мае сабе роўных не толькі на постсавецкай прасторы, але і ў далёкім замежжы, — падкрэсліў Міхаіл Рыбакоў. — Усе, хто прыязджае сюды, прызнаюць, што па сваім размаху, маштабе, працягласці гэты фестываль непараўнальны ні з адным, які праходзіць за межамі Беларусі”.

*Захар Шчарбакоў, БелаПАН.*

# Пратэрмінаваная запазычанасць па зарплаце ў жніўні знізілася амаль на 17%

**Пратэрмінаваная запазычанасць на 1 верасня 2015 года склала 276 млрд. рублёў (1,4% ад фонду заработнай платы па краіне за ліпень 2015 года) і ў параўнанні з 1 жніўня 2015 года зменшылася на 16,6%, ці на 55 млрд. рублёў, паведамілі ў Нацыянальным статыстычным камітэце.**

На 1 верасня 2015 года ў 432 арганізацыях, якія абследуюцца, дапушчаная пратэрмінаваная запазычанасць па заработнай плаце перад 68 тыс. работнікамі.

Больш за ўсё арганізацый-даўжнікоў у Мінскай вобласці — 202 (запазычанасць 124 млрд. рублёў), далей ідуць: Віцебская — 158 (89,2 млрд.), Магілёўская — 34 (15,5 млрд.) Гродзенская — 25 (19,3 млрд.), Мінск — 8 (24 млрд.), Гомельская — 4 (3,7 млрд.). У Брэсцкай вобласці ўсяго адно прадпрыемства-даўжнік (280 млн.).

Найбольшая колькасць даўжнікоў зафіксаваная ў сельскай гаспадарцы — 345 (сума доўгу —198,6 млрд. рублёў), прамысловасці — 39 (45,6 млрд.), будаўніцтве — 36 (27,9 млрд.).

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Эколагі падалі ў суд на Пастаўскі райвыканкам у сувязі з будаўніцтвам царквы на беразе ўнікальнага возера Балдук

**Грамадскае аб`яднанне “Экадом” і жыхары вёскі Станчыкі падалі ў суд Пастаўскага раёна іск супраць Пастаўскага райвыканкама (Віцебская вобласць). Падставай для іску стала будаўніцтва царквы на беразе ўнікальнага возера Балдук, якое раней знаходзілася на тэрыторыі гідралагічнага заказніка “Швакшты”.**

На працягу 2011-2014 гадоў Пастаўскі райвыканкам неаднаразова прымаў рашэнні, звязаныя з узгадненнем будаўніцтва культавага аб`екта “Храм іконы Божай Маці “Жываносная крыніца”. Так, у чэрвені 2011 года райвыканкам зацвердзіў акт выбару месца для будаўніцтва храма, а ў красавіку 2013-га — дазволіў праектаванне і будаўніцтва храма ў населеным пункце Станчыкі.

Паводле інфармацыі эколагаў, месца размяшчэння царквы на беразе возера Балдук раней знаходзілася на тэрыторыі гідралагічнага заказніка “Швакшты”. Цяпер жа мясцовыя органы ўлады заяўляюць, што месца размяшчэння знаходзіцца ў межах Станчыкаў.

У адпаведнасці з законам “Аб архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь” рашэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў па пытаннях забудовы населеных пунктаў прымаюцца пасля правядзення грамадскіх абмеркаванняў. Аднак, як адзначаецца ў іскавай заяве, грамадскія абмеркаванні адносна рашэння аб будаўніцтве ў вёсцы Станчыкі храма праведзеныя не былі. Такім чынам, было парушанае права фізічных і юрыдычных асоб на спрыяльнае асяроддзе пражывання пры ажыццяўленні архітэктурнай, горадабудаўнічай і будаўнічай дзейнасці, падкрэсліваюць істцы.

“Экадом” і жыхары Станчыкаў просяць суд абавязаць Пастаўскі райвыканкам правесці грамадскае абмеркаванне будаўніцтва храма.

Паводле інфармацыі вяскоўцаў, гэтым летам забудоўшчыкі пачалі падрыхтоўчыя работы, у тым ліку па падвядзенні энергазабеспячэння да месца магчымага храма.

Будаўніцтва ажыццяўляе праваслаўная рэлігійная абшчына “Прыход храма свяціцеля Мікалая Цудатворцы” (Паставы), якая нядаўна ўключыла ў склад сваёй абшчыны вёску Станчыкі. Жыхары гэтай вёскі каталікі.

*Таццяна Іванова, БелаПАН.*

